Наталля Бучынская

# Прыгоды маленькай машынкі

Казкі



Мінск
«Мастацкая літаратура»
2008

УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44
Б94

Серыя заснавана ў 2008 годзе

Распрацоўка серыі
*Алены Масла*

Афармленне серыі
*Людмілы Рудакоўскай*

Ілюстрацыі
*Алены Ярмоленка*

*Для дашкольнага*
*і малодшага школьнага ўзросту*

Выпуск выдання
ажыццёўлены па заказу
і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі
Рэспублікі Беларусь

ISBN 978-985-02-1004-3



Я раскажу вам
пра прыгоды маленькай Машынкі.
Яе зусім нядаўна сабралі
на заводзе, паставілі рухавік, залілі бензін,
і магутная машына адвезла малую
ў вялізны гараж. Машынка была
такая прыгожая, бліскучая, што адразу ж
знайшліся дзве дарослыя
паважаныя машыны, якія ўзяліся
апекавацца над ёю, пакуль
малая падрасце ды паразумнее.
Яны і сталі Машынцы
Мамай і Татам.





## У ГАРАЖЫ

Машынцы было вельмі цікава даведацца, як яна выглядае. Малая скасавурыла ў люстэрка адно вочка-фару, потым другое — убачыла свой жоўценькі бачок. І ўсё. Агледзелася навокал: ага! Вунь якое вялікае люстэрка ў суседкі. Машынка ціхенька падкацілася амаль упрыцірку да незнаёмкі. Пакруцілася так і гэтак, нават на дыбачкі стала, не ўтрымалася і піхнула суседку.

— Хоршанька! — занепакоілася тая.

Але Машынка не зразумела і ціснулася далей.

— Ты чуеш, што я кажу? Асцярожна! Усю фарбу з бакоў паздымаеш. Няўжо месца не хапае?

— Прабачце,— піскнула Машынка.— Я спачатку не зразумела. Мне толькі хацелася ўбачыць, якая я. У мяне ёсць свае люстэркі, але ў іх амаль нічога не відаць. Цікава: навошта мне люстэркі, калі я сябе ў іх не бачу?!

— А, дык ты ў нас зусім новенькая! Люстэркі мы носім для сваіх вадзіцеляў,— патлумачыла машына.— Каб яны





маглі бачыць, што робіцца на дарозе з бакоў і ззаду,— дзеля бяспечнасці руху. А сябе разгледзець ты зможаш у шкляныя дзверы, што збоку ад выезду з гаража. Толькі памятай: перамяшчацца без вадзіцеля нам, машынам, строга забаронена. Таму не трапляйся на вочы людзям адна.

Машынка падзякавала і паціху, хаваючыся за большыя машыны, рушыла да выхаду. Толькі-толькі яна падкралася бліжэй да дзвярэй, як у гараж нехта зайшоў. Машынка кінулася з перапуду ўбок і стаілася, прымушаючы свой маторчык працаваць як мага цішэй. Хутка гараж зноў апусцеў. Машынка агледзелася навокал і зусім побач заўважыла вельмі ж дзіўную машыну, таксама жоўценькую і невялічкую. Але тая была ўся нейкая нязграбная, выцягнутая ўшыркі. І колы яе былі крывыя і паплюшчаныя.

Машынка нясмела гукнула:

— Што з табой? Чаму ты такая пакамечаная?

Адказу не было, і Машынка вырашыла падкаціць бліжэй. Але не паспела яна праехаць і некалькі метраў, як ткнулася бамперам у гладкую бліскучую паверхню бочкі, паблізу якой апынулася, хаваючыся. Машынка ўважліва прыгледзелася...

— Авой! Няўжо гэта я? Такая няўклюдная і касабокая?

Ад роспачы ў Машынкі ажно клаксан уключыўся і засігналіў на ўсю моц. Машыны, якія адпачывалі ў







гаражы, заварушыліся, занепакоіліся. А да малой ужо спяшалася Мама.

— Цішэй, маленькая. Што тут у цябе здарылася?

Машынка, усхліпваючы, паказала на бочку.

— Мама, я паглядзела ў гэта люстэрка...

— Ну-ну, супакойся. Гэта проста вялікая бочка. З-за таго, што бакі яе скругленыя, адлюстраванне скажаецца. Вось я цябе правяду да дзвярэй, і ты зможаш на сябе палюбавацца.

Што і казаць, пасля перажытага перапуду Машынцы страшнавата было. Але яна ўсё ж рашылася і глянула на сябе. Зграбненькая, бліскучая, з рознакаляровымі фарамі, з прыгожымі круглымі колцамі — цяпер Машынка ўпэўнілася, што людзі на заводзе нездарма радаваліся, збіраючы яе:

— Ах, прыгажунька! На такой машыне ездзіць будзе прыемна і весела.





## ЗНАЁМСТВА З ВАДЗІЦЕЛЕМ

Машынка ўжо некалькі дзён стаяла ў гаражы. Яна пазнаёмілася з усімі машынамі, што тут жылі. Тыя вельмі прыязна паставіліся да малой. А вечарамі расказвалі такія цікавыя гісторыі! Але кожную раніцу ўсе выязджалі на працу. Машынка заставалася адна. Яна агледзела ўсе закуточкі гаража і знайшла сабе забаўку: круцілася перад бліскучай бочкай, смеючыся са свайго скажонага адлюстравання, якое яшчэ нядаўна так напалохала яе. Аднак гэта хутка надакучыла, і цяпер ёй было сумна. Машынка не магла дачакацца таго моманту, калі можна будзе самой выехаць за вароты. Там жа — цэлы свет! І аднойчы яна амаль наважылася парушыць самае галоўнае правіла: ніколі не выязджаць адной...

Толькі-толькі Машынка збіралася выслізнуць ціхенька з гаража, як тут жа яе прыпыніла Мама:

— Ты куды, даражэнькая?

— Хачу пракаціцца, пагуляць.





— Адна? Не-не, трэба пачакаць твайго вадзіцеля. Разам паедзеце. Ды не абы-куды, а ў школу, вывучаць правілы дарожнага руху.

— А навошта тыя правілы, калі ў мяне будзе свой вадзіцель? — здзівілася Машынка.

— Ах, мая ты маленькая. Правілы дарожнага руху патрэбны, каб не трапіць у аварыю. Іх павінны ведаць усе: і людзі, маленькія і вялікія, і машыны, і веласіпеды. Вось я неяк чула радыёперадачу, у каторай апавядалі пра вадзіцеля, які не справіўся з кіраваннем і ўрэзаўся ў дрэва. І менавіта таму, што машына, якая ленавалася вывучыць правілы, не паслухалася вадзіцеля. Ох, несаладка ім прыйшлося. Вадзіцель трапіў у бальніцу, а машыну ледзь адрамантавалі. Ну, мне ўжо пара на працу. Ты тут не сумуй і памятай, што я табе сказала.

І Мама хуценька выехала з гаража. А Машынка стала бліжэй да дзвярэй, каб хоць праз шчылінку бачыць, што робіцца знадворку. Яна паглядала, як выязджаюць за вароты вялікія машыны, і думала:

«Ну хутчэй бы ўжо! Чаму гэта Мама не хоча адпускаць мяне адну? У мяне ж чатыры колцы, і я трывала на іх стаю».

Але доўга чакаць не прыйшлося. Да Машынкі падышоў малады ўсмешлівы хлопец, прыязна паляпаў яе па капоце і сеў за руль. Машынка ўзрадавалася, бо вадзіцель ёй адразу спадабаўся. Што ні кажыце, а ўсё ж





вельмі важна, хто табой кіруе. Завёўся матор, і Машынка рванулася з месца. Відаць, вадзіцель меў не больш вопыту, чым яна сама. І таму рухавік амаль адразу ж захлынуўся: кхе-кхе-кхе і заглух.

— Гэй, Толік, ты што гэта вырабляеш! Хто ж так кранаецца? Можа, ранавата табе машыну даверылі, ды яшчэ такую прыгожую! — закрычаў пажылы вадзіцель, які якраз праходзіў міма.

Так Машынка даведалася, што яе вадзіцеля завуць Толікам. А яшчэ зразумела, што наведацца ў школу ім і сапраўды не зашкодзіць. Ну што ж, тады паехалі!

І яны рушылі з месца, але цяпер ужо павольненька.





## ПРА ДЗІЎНАГА ПАСАЖЫРА

Ведаеце, а Машынцы ў школе спадабалася. Праўда, у клас яна не трапіла. У будынак, на шыльдзе якога вялікімі літарамі было напісана «Аўташкола», заходзілі вадзіцелі, а машыны чакалі іх на вуліцы. Толік паставіў Машынку пад самым акном, таму яна ўсё добра чула і старанна запамінала правілы.

Некалькі тыдняў Машынка разам з Толікам вучыліся, потым здавалі іспыты і нарэшце атрымалі вадзіцельскае пасведчанне. А Машынцы яшчэ і нумар прысвоілі. Гэта было сапраўднае свята для абаіх. Яны каталіся па вуліцах горада, сігналілі прахожым, падміргвалі ім фарамі, а самым прыгожым дзяўчатам Толік нават рукой махаў. А пасля яны падкацілі да невялічкай утульнай кавярні. Машынка ўжо ведала, што людзям падсілкоўвацца трэба куды часцей, чым машынам. Нават такім маладым і зухаватым, як яе вадзіцель.




Пакуль Толік перакусваў торцікам з гарбатай, побач з Машынкай прыпаркаваўся гарадскі аўтобус, што таксама прывёз вадзіцеля паабедаць. Аўтобус быў у цудоўным настроі, весела ўсміхаўся, і па ўсім было відаць, што яму хочацца з кім-небудзь пагаманіць.

— Ведаеш, малеча, я ж не першы год па сваім маршруце катаюся. Шмат чаго пабачыў, шмат каго перавазіў, але сённяшні выпадак асаблівы...

Вось што ён расказаў:

— Еду сёння на вакзал. Ужо не першы рэйс зрабіў, народу паменела. На прыпынку каля дзіцячай паліклінікі зайшло ўсяго чалавекі тры-чатыры. А за імі, толькі ўяві сабе, верабей уляцеў. Я стаю, дзвярэй не зачыняю. Можа, думаю, выпадкова трапіў. А той агледзеўся, да карты падляцеў. Што ён на той карце зразумеў, не ведаю, але так задаволена ціўкнуў, што адразу стала ясна: гэта тое, што яму патрэбна. Паехалі мы. Я ў люстэрка задняга бачання паглядаю. Пасажыры мае пасміхаюцца, за вераб'ём цікуюць. А ён усім выглядам сваім нібы даводзіць: «Я нікога не чапаю, і вы мяне не чапайце». Праехаў два прыпынкі, а пасля спакойненька так — пырх да дзвярэй. Дык ці паверыш? З салона нават не вылецеў, а выйшаў. Як быццам катацца на аўтобусе для яго — справа звыклая. Такі ўжо гультай трапіўся, што паленаваўся два прыпынкі праляцець. Атрымліваецца, што я сёння вераб'я «зайцам»



вёз. Вось пацеха! Ну, але лавіць «зайцоў» — гэта ўжо не мая справа.

Машынцы было цікава слухаць пра гэта незвычайнае здарэнне. А яшчэ хацелася даведацца, ці праўда, што зайцы таксама на аўтобусах раз'язджаюць. А навошта іх лавіць? І хто гэта робіць?

Але спытацца пра ўсё гэта яна не паспела, бо з кавярні выйшаў Толік разам з вадзіцелем аўтобуса. Яны аб нечым весела гаманілі. Магчыма, Толік таксама пачуў гісторыю пра смелага вераб'я. Яны развіталіся, і аўтобус паехаў па сваіх справах.

А Толік паклаў на сядзенне Машынкі пакуначак і сказаў:

— Вось і для цябе пачастунак.

Ах, што гэта была за смаката — найлепшае машыннае масла! Самыя цудоўныя ласункі ў свеце — бензін і масла. Для машын, канечне ж.





## ЦІКАВАЕ ДАРУЧЭННЕ

У тую памятную раніцу Машынцы з Толікам даверылі першае адказнае даручэнне. Трэба было адвезці ў дзіцячы садок цацкі. Машынка са здзіўленнем назірала, як грузчыкі выносілі са склада лялек, сабачак, мядзведзікаў, мячыкі, розныя прыгожыя скрыначкі. А яшчэ — машынкі. Вялікія і маленькія, грузавыя і легкавушачкі, інерцыйныя і на пульце кіравання. Ёй было незразумела: каму патрэбныя чалавечкі, зробленыя з пластмасы, набітыя ватай звяры і машынкі, на якіх хіба толькі камарыка пракаціць можна?

Калі Машынка прытармазіла каля дзіцячага садка, дзеці якраз гулялі на вуліцы. З якой радасцю яны кінуліся да новых цацак! Смех, піск! Дзяўчаткі адразу ж паразбіралі лялек і тут жа пачалі іх выхоўваць: «Не бегай. Не крычы. Слухайся старэйшых». А хлопчыкаў больш зацікавілі канструктары і машыны. Ім знайшліся важныя справы: падвозіць пясок у пясочніцу, капаць




кар’еры, перавозіць пасажыраў. Дарэчы, пасажырамі сталі тыя самыя сабачкі і мядзведзікі, якіх таксама прывезла Машынка.

Вось дык справа... Аказваецца, машыны — гэта не проста вельмі патрэбныя людзям істоты. З імі яшчэ і гуляць можна! Ад такога адкрыцця ў Машынкі аж дыханне перахапіла. І так адчайна захацелася цацачную машынку! Каб можна было зачапіць яе на вяровачку, як вунь у таго кірпатага хлопчыка, і гуляць па горадзе.





## ПРАКОЛАТАЯ ШЫНА

Усю зваротную дарогу Машынка марыла пра сваю ўласную цацку і, напэўна, была недастаткова ўважлівай. Вось і трапіўся ёй пад колца цвік. Бах! — стрэліла шына, і Машынка закульгала на правае пярэдняе кола. Ёй было так балюча, што ехаць далей не хапіла сіл, і яна спынілася проста на дарозе. Паветра вырывалася з шыны з такім свістам, што Толік адразу зразумеў, у чым справа. На шчасце Машынкі, запасное кола для кожнай прадугледжана і абавязковае. Хлопец даволі хутка замяніў пашкоджанае. А прабітае паклаў у багажнік — адрамантаваць.

Сеўшы за руль, Толік разважліва сказаў:

— Вось табе і прыгода. Як гэта я той цвік не заўважыў?

Прыехалі ў гараж. Хоць там і было цемнавата, Мама адразу заўважыла збянтэжанасць малой. Выслухаўшы яе гісторыю, занепакоена сказала:







— Што ж, цяпер ты на ўласным вопыце ведаеш: ніякія мары, думкі, трывогі не павінны перашкаджаць у час руху. Ты ж у адказе не толькі за сябе і свайго вадзіцеля, але і за ўсіх, хто знаходзіцца на дарозе.

— Але ж навошта там цвікі раскідваць? А яшчэ я бачыла разбітую бутэльку...

— Людзі розныя ёсць. На жаль, не кожны думае пра вынікі сваіх дзеянняў. І таму лепш не лавіць варон.

— Мамачка, я ж іх не лавіла,— запярэчыла Машынка.— Яны ў небе лётаюць, як жа я магла...

— Ха-ха-ха,— засмяяўся, пад'ехаўшы, Тата.— Каб лавіць варон, неабавязкова ўмець лётаць. Так кажуць пра тых, хто засяроджаны толькі на сваіх думках і не заўважае нічога навокал.

Машынка на ўсё жыццё запомніла гэты важны ўрок: на дарозе трэба быць пільнай.





## НОВЫЯ АДКРЫЦЦІ

Пакуль стаялі сонечныя дзянькі, Машынцы не даводзілася далёка ездзіць. Але аднойчы ноччу па даху гаража нешта ціхенька забарабаніла. Машынка прыслухалася: «Што гэта?» і тут жа пачула, як Тата сонна прамармытаў: «Дождж пайшоў».

Маленькая ўстрапянулася:

— Дождж? А хто гэта? Чаму ён па нашым даху ходзіць?

— Спі, заўтра сама ўбачыш,— і Тата зноў салодка захроп.

Машынцы карцела хутчэй паглядзець, што гэта за дзіва такое, але ўсе навокал адпачывалі. Нельга іх трывожыць. Машынка вырашыла дачакацца раніцы і сама не заўважыла, як заснула.

Калі прыйшоў Толік, Машынка яшчэ спала. А пачуўшы яго голас, страпянулася, праганяючы сон, пацягнулася, і яны выехалі з гаража.

2а Зак. 2544





— Вой! Што гэта пад нагамі? (Прабачце, пад колцамі.) Мокрае, пырскучае. О! А за кіршэнь чаму ліецца? І ў вока, і па патыліцы цячэ... (Канечне, у машын усё гэта інакш называецца, але адчуванне такое ж, як і ў цябе, калі ў дождж выбягаеш з хаты басанож ды без парасона.)

— Гэта і ёсць дождж,— пібікнуў, выязджаючы за вароты, Тата. Ён хацеў яшчэ нешта дадаць, але не паспеў — яго вадзіцель спяшаўся на працу.

Толік сеў за руль.

— Ну і пашчасціла нам з табой. Першы далёкі рэйс — якраз у дождж. І накірунак незнаёмы. Трэба абавязкова ўзяць карту аўтамабільных дарог.



Амаль кожны вадзіцель любіць паразважаць услых са сваёй машынай. Вось і Толік прывык расказваць, у які рэйс яны паедуць, раіўся, на якой запраўцы лепш купіць бензін. І быў упэўнены, што Машынка выдатна яго разумее. Так яно і было.

А наперадзе іх чакала дарога. І якая! Лужына на лужыне. Машынка спачатку старалася іх аб'язджаць, але безвынікова.

Дык вось што такое дождж. Пырскі, макрэча, дарога гразкая і ўсё навокал нейкае незвычайнае, размытае. Нават разгледзець што-небудзь цяжка, бо вада вочкі-фары залівае. Машынка адчула, як Толік націснуў нейкую кнопачку. «Шах-шах-шах»,— мерна запрацавалі «дворнікі». «Ой, як цікава! Гэта, напэўна, каб вадзіцелю лепш відаць было. А я ўсё дзівілася, навошта гэтыя прыстасаванні на капоце. А яны працуюць, якраз як дзядзька Макар на машынным двары. Толькі ён венікам махае. Адчуванне нейкае дзіўнае. На што ж гэта падобна? А, успомніла! Верачка, вадзіцель тралейбуса, нядаўна расказвала сяброўцы па тэлефоне, што ў салоне прыгажосці ёй рабілі масаж. Скуры было цёпла і крышку казытліва, якраз як майму шклу»,— так разважала Машынка, едучы ўсё далей і далей. Спачатку цяжкавата было прызвычаіцца да новых умоў, але яна вельмі старалася.





## НЕБЯСПЕЧНЫЯ ЛУЖЫНЫ

Дождж сціх, калі Толік з Машынкай вярталіся назад. Настрой у абаіх быў проста цудоўны: яны своечасова прывезлі ў вясковую аптэку лекі, і людзі былі ім вельмі ўдзячныя. Толік напяваў нейкую вясёлую песеньку, а Машынка старалася гудзець у такт і нават трошкі прытанцоўвала. Яны ўжо і пра лужы забыліся і з усяго разгону ўляцелі ў горад, апырскаўшы жанчыну з хлопчыкам, што спяшаліся да аўтобуснага прыпынку.

— Ах! — толькі і змагла сказаць жанчына, калі цэлы вадапад бруднай вады хлынуў на прыгожы зялёны плашчык.

Хлопчык разгублена паглядзеў на свае заляпаныя штонікі, на мокрую перапэцканую маму і загаласіў на ўсю вуліцу:

— А як жа мы цяпер тату сустрэнем?!

Машынка перапалохалася таго, што нарабіла, але хуценька спынілася. Толік ад сораму быў чырвоны,



як вараны рак. Машынцы здавалася, што і яна ўжо стала такога ж колеру. Яна моўчкі ёрзала на месцы, спадзеючыся, што Толіку ўдасца як-небудзь выправіць сітуацыю.

Ён падбег да жанчыны:

— Прабачце, прабачце нас, калі ласка. Мы ўпершыню па лужах...

Жанчына і дзіця глядзелі на хлопца з такім дакорам, што ён зусім зніякавеў і цяпер стаяў з імі побач, перамінаючыся з нагі на нагу.

— Ну што ж, малады чалавек, дзякуючы вам мы не паспеем сустрэць цягнік.

— Мой тата прыязджае! Ён аж два месяцы быў у камандзіроўцы. Купіў мне новую машыну, а я яму намаляваў самалёт. А калі мы не паспеем, тата падумае, што я пра яго забыўся! — зноў загаласіў малы.

Машынка ціхенька-ціхенька, для аднаго толькі Толіка, пібікнула. Той пачуў і апамятаўся.

Прысеўшы перад хлопчыкам на кукішкі, ён сказаў:

— Ведаеш, браток, я ўміг даімчу вас да вакзала, калі твая мама не будзе супраць. І назад дастаўлю. Толькі не плач. І вопратку вашу адвязу ў хімчыстку.

— Ну, з плямамі я як-небудзь спраўлюся,— сказала жанчына,— і хаця мне вельмі непрыемна ехаць некуды ў такім выглядзе, іншага выйсця я не бачу. Ромка, выцірай вочы і давай хуценька ў машыну.



Канечне ж, у той дзень яны абое (і Машынка і Толік) вельмі стаміліся. Напэўна, больш за ўсё ад перажытага сораму. Гэта ж трэба: з-за свайго блюзнерства ледзь не сапсавалі свята цэлай сям'і. Але ўсё скончылася добра. Радасць сустрэчы засланіла ўспамін пра непрыемнае здарэнне. І мама з сынам нават не пажаліліся тату.

Машынка ноччу спала як пшаніцу прадаўшы. І бачыла ў сне цацачную машынку. Якраз такую, якую прывёз Ромкаў тата.





## НА АЎТАМЫЙЦЫ

Раніцай на небе зноў ззяла сонейка.

Толік, падышоўшы, разгублена агледзеў Машынку і сказаў:

— Але ж і ўпэцканая ты! А нам сёння кнігі ў бібліятэку везці. Вось што, давай мы хуценька на мыйку зганяем. Толькі з дамовай — ніякага свавольства па лужах.

Машынка добра зразумела, што апошнія словы Толік сказаў не толькі для яе.

І яны памчаліся. На шчасце, лужыны ўжо добра падсохлі. Даехалі хутка і без непрыемнасцей. На аўтамыйцы Машынка была ўпершыню. Вы ж памятаеце, што малая была зусім новенькая. Убачыўшы шчоткі, якія прагна накідваліся на машыны, яна ледзьве не запанікавала. Добра яшчэ, што была невялічкая чарга. Пакуль яны чакалі, Машынка паспела агледзецца і ўздыхнула з палёгкай: з другога боку мыйкі машыны вынырвалі задаволеныя і бліскучыя. Ну што ж... Машынка рашуча накіравалася да рабочых, што




трымалі ў руках шлангі і яркія бутэлечкі. Яна ўз'ехала на рухомы транспарцёр і замерла, бо Толік выключыў матор. Хлопцы палілі Машынку вадой і яшчэ нечым ружова-пахучым. «О! Як у салоне прыгажосці. Верачка казала, што ёй галаву мылі шампунем. Гэта мыйка — як сапраўдны салон». І тут на Машынку кінуліся шчоткі. Вялізныя, калматыя. Адступаць не было куды. «Ой-ой-ой, ха-ха-ха, хі-хі-хі, козытна»,— пішчала ад знямогі Машынка. Але як жа было прыемна адчуваць, як адмываюцца ад бруду бачкі, колцы, шкло. Вымытая да бляску, Машынка трапіла пад сушку. «А гэта ўжо падобна на фен»,— вырашыла яна. У самым канцы памяшкання было вялікае люстэрка, і Машынка не прамінула магчымасці агледзець сябе з усіх бакоў і засталася вельмі задаволенай.

Толік стаяў непадалёк разам з іншымі вадзіцелямі, і Машынка пачула ўрывак іх размовы:

— Так што глядзі, Толя, не вельмі захапляйся аўтамыйкай. Гэта ўсё ж шкодна для машыны, бо іншы раз трапляюцца старыя шчоткі, а яны могуць падрапаць фарбу. На драпінах вельмі хутка заводзіцца ржа. Куды лепш сваімі рукамі, мяккай анучай. Машына ж таксама догляд любіць. Але памятай: мыць машыны каля вадаёмаў строга забаронена.

— Чаму? — здзівіўся той.— Гэта ж так прыемна: прытармазіў каля возера, дастаў вядро з анучай і мый сабе. А вакол птушкі пяюць, чарот калышацца...



— Ага, і брудная вада з тваёй машыны, разам з маслам і бензінам, плыве ў возера. Атрымліваецца, што забруджваеш навакольнае асяроддзе. За гэта аштрафуюць. Ды і не толькі ў гэтым справа. Ты ж падумай, як там пасля купацца? А азёрным жыхарам, раслінам — соладка?

— Сапраўды,— задумліва працягнуў Толік.— Чуеш, мая даражэнькая?

Машынка ўсё выдатна чула. Карысна ўсё ж разумных людзей паслухаць. Цяпер яны з Толікам будуць ведаць, што, спыняючыся каля самых вадаёмаў, вадзіцелі шкодзяць прыродзе. А ад слоў пра ржу ў яе ўвогуле мурашкі па абшыўцы пабеглі (якраз як у цябе па скуры, калі аб нечым непрыемным успомніш).

Вадзіцелі на развітанне паціснулі адзін аднаму рукі, вымытыя машыны весела пібікнулі і раз'ехаліся хто куды.





## ЧАМУ «КАШЛЯЮЦЬ» МАШЫНЫ

Кніжкі пагрузілі хутка. Адвезлі іх у бібліятэку.

— Ну, а цяпер куды? — раздумліва прамовіў Толік.

Машынка ўжо ведала, куды ім трэба. Яна адчувала, што вельмі хоча есці, а бензіну ў баку засталося зусім мала. Мама навучыла, што ў такім разе трэба памігаць вадзіцелю спецыяльнай чырвонай кнопачкай, што размешчана на панелі кіравання. Так Машынка і зрабіла. Толік сігнал зразумеў і заехаў на бліжэйшую аўтазапраўку.

«Ах, колькі ў жыцці цудоўных адкрыццяў! — думала Машынка, пакуль Толік напаўняў яе бак бензінам.— Так цікава вандраваць па вуліцах горада, выконваючы розныя даручэнні!» Машынка была вельмі дапытлівай і не прамінала магчымасці даведацца што-небудзь новенькае. За апошнія дні яна, напрыклад, вывучыла новыя словы: аптэка — там людзі купляюць лекі, бібліятэка — тут чытаюць цікавыя кніжкі.

3 Зак. 2544





З такога разморанага задаволенага стану Машынку вывела адчуванне небяспекі. «Што такое?» — азірнулася па баках Машынка. І адразу ж зразумела прычыну трывогі. Да іх з Толікам падыходзіў дзядзька з цыгарэтай у зубах. Машынка проста не выносіла паху табакі. На яе шчасце, Толік не курыў. І не толькі таму, што гэта шкодна для здароўя. На вадзіцельскіх курсах іх папярэджвалі, што курыць у машыне і на запраўцы вельмі небяспечна. І расказвалі выпадкі, як легкадумныя вадзіцелі ці іх пасажыры выкідваюць у час руху праз акно непатушаныя цыгарэты. Ад гэтага на дарозе здараюцца пажары. Машынка на свае вочы бачыла фатаграфію палаючай, як факел, машыны. З перапуду і ад непрыемнага казытання ў радыятары маленькая аж закашлялася.

Дзядзька ад нечаканасці спыніўся, агледзеў Машынку і звярнуўся да Толіка:

— Ведаеш, хлопча, а мой мікрааўтобус такія ж гукі выдае. Я яго на дыягностыку ганяў разоў пяць, а яны ніяк прычыны выявіць не могуць.

— Не дзіва,— адазваўся Толік,— вы даўно курыце? Гадоў дзесяць? Дык я ўпэўнены, што не толькі машына, але і вы самі кашляеце. А вы ж дарослы чалавек, павінны ведаць, што цыгарэтны дым не толькі вам шкодзіць, але і ўсяму навакол. І нават машынам.

Тут Машынка зноў закашлялася — вельмі ж ужо едкі быў тытунёвы дым. А дзядзька задумаўся.





— Хм, ну пра наваколле я чуў, і не раз. Мне ўсё здавалася, што гэта байкі. Але калі ты кажаш, што нават машынам гэта шкодзіць,— ён разгублена развёў рукамі,— відаць, прыйдзецца кінуць курыць.

— Кідайце, дзядзька, і неадкладна. Вы ж бачыце, вунь і знак вісіць: курэнне забаронена. Гэта ўсё ж запраўка. Бензін жа — рэчыва лёгкага ўзгарання. Ці доўга да бяды?

Па ўсім было відаць, што дзядзьку ўдалося пераканаць. Ён прытушыў цыгарэту і кінуў яе ў сметнік.

— Ну, а скажы, ці чуў ты, што аўтазапраўкі таксама вельмі шкодныя? Я вось у газеце чытаў, што бензін, разліты на зямлю ці асфальт, трапляе ў падземныя воды і забруджвае ваду ўсёй планеты.

— Чуў,— уздыхнуў Толік.— Але я ведаю, што трэба рабіць. Мне здаецца, кожны вадзіцель павінен вельмі адказна адносіцца да такой справы як запраўка, уважліва сачыць, каб бензін не праліваўся. І тады не будзе ён ворагам. Мне вось бацька расказваў, што яны ў дзяцінстве басанож па лужынах бегалі. І ў іх чыстай вадзе адбівалася неба. А яшчэ па лужынах караблікі пускалі. А вось мне ўжо так пазабаўляцца не давялося.

— Так-так. Цяпер лужы забруджаны мазутам і бензінам. Мае ўнукі радаваліся спачатку, што лужыны рознакаляровыя. Але я ім патлумачыў прычыну. Хутка не толькі ў горадзе, а і ў вёсцы босай нагой на зямлю





ступіць будзе страшна, ды і паветра цяжкое стала: ад выхлапных газаў не прадыхнуць...

Машынка слухала, стаіўшыся. Дык вось яно як... Аказваецца, нават машыны і бензін могуць прыносіць шкоду. Маленькай было няёмка. Бо ў яе таксама была выхлапная труба, з якой у час руху вырываўся дым перапрацаванага паліва.

Толік, сеўшы ў Машынку, адразу адчуў, як змяніўся яе настрой.

— Не сумуй, ты ж не вінаватая, што табе зрабілі рухавік на бензіне. І ўвогуле, вучоныя ўжо прыдумалі выйсце. Хутка машыны перавядуць на вадароднае паліва. Яно для прыроды зусім не шкоднае.

Гэтыя словы заспакоілі Машынку. Малая адчувала, што пасля запраўкі яе рухавічок зноў працуе бадзёра, а гэта значыць, што яна гатова ў дарогу. Машынка з Толікам накіраваліся да дыспетчарскай і атрымалі новае заданне. Ім зноў давялося ехаць у тую вёску, куды яны адвозілі лекі. Праўда, свет няблізкі, а вярнуцца трэба засветла, але Толік, падумаўшы, вырашыў: «Паспеем». І яны рушылі.





## КАРОВЫ НА ДАРОЗЕ

На гэты раз надвор'е было сонечнае, і Машынка з цікавасцю разглядала мясцовасць, па якой яны праязджалі. І было на што паглядзець! Адразу за горадам адкрыўся такі неабсяжны прастор. Міма праносіліся палі, пералескі, вёскі. Там усё было незвычайным: маленькія аднапавярховыя домікі, на машынных дварах стаялі трактары і камбайны, якіх у горадзе Машынцы не даводзілася сустракаць. Канечне ж, было б цікава паразмаўляць з імі, даведацца, якую работу яны выконваюць. Але Машынка добра разумела, што справа — перш за ўсё. І імчалася наперад.

Вынырнуўшы з-за вялікага ўзгорка, яна ўбачыла на дарозе дзіўных жывёлін. Іх было многа. Вялікія, крутарогія. Машынка адразу зразумела, што лепш трымацца ад іх наводдаль. Але Толік упэўнена кіраваў проста да нечаканай перашкоды. «Ну што ж, напэўна, ён ведае, як справіцца з сітуацыяй»,— вырашыла Машынка.





— Трэба ж было трапіць якраз на перагон статка,— незадаволена прамовіў Толік і, падруліўшы зусім блізка да жывёлін, моцна засігналіў. Тыя абурана фыркнулі, бліжэйшыя матанулі страшнымі рагамі, але дарогу не саступілі.

Ох, якога страху нацярпелася Машынка. Асабліва калі адна жывёліна падышла блізка-блізка і тыцнула гарачым носам якраз у бампер. Малой так хацелася даць задні ход, але ж любая машына павінна слухацца вадзіцеля. І яна, стараючыся супакоіцца, прыслухалася да Толіка. А той нецярпліва ёрзаў у крэсле, раз-пораз сігналячы, і трошкі раздражнёна развражаў: «Смелыя каровы, нічога не скажаш. Машына — гэта ўсё ж тэхніка. Павінны хоць крышачку баяцца. А ім — хоць бы хны. Прывыклі, напэўна».



Пачуўшы гэта, Машынка ўспомніла, што аднойчы адвозіла ў магазін скрыні, на якіх вялікімі літарамі было напісана: «МАЛАКО». Знізу была намалявана вясёлая дзяўчынка, якая чухала за вухам якраз такую жывёліну. Машынка перавяла дух. Яна зразумела, што няма чаго так баяцца. Трэба проста перачакаць, калі каровы пяройдуць дарогу. Цяпер, калі страх адышоў, Машынка больш пільна прыгледзелася да кароў. Паназіраўшы за імі некалькі хвілін, вырашыла, што гэта прыгожыя і рахманыя істоты. А яшчэ ўспомніла: Толік казаў, што кожную раніцу п'е малако, бо гэта вельмі карысна.

Нарэшце дарогу перайшла апошняя карова. І хаця яе падганяў доўгай пугай пастух, ішла яна павольна і вельмі важна. Толік уздыхнуў з палёгкай, і яны пакацілі далей.





# НА НАЧНОЙ ДАРОЗЕ

Усё ж з-за затрымкі ў дарозе вярталіся ў горад позна. Машынка чула аднойчы, як Тата расказваў, што адзін раз ледзь не трапіў у аварыю з-за бесклапотнасці вадзіцеля, які ехаў прыцемкам з выключанымі фарамі. «Гэта магло скончыцца трагічна»,— казаў ён. Машынку так уразіла гэта гісторыя! Яна ўпершыню ехала ўначы і з усяе сілы напружвала ўвагу і падсвечвала дарогу фарамі. Як высветлілася, нездарма іх зрабілі Машынцы так многа: бліжняга і дальняга бачання, габарытныя, стоп-сігналы, супрацьтумановыя. Праўда, імі Машынка яшчэ ніколі не карысталася — не было патрэбы. І ўвогуле, па горадзе нават вечарам ездзіць было лягчэй — там вуліцы былі асвечаныя яркімі ліхтарамі. А тут прыходзілася спадзявацца толькі на ўласную пільнасць і пільнасць шафёра. Машынка ўважліва прыслухоўвалася да Толіка: як ён, ці не захацелася спаць? Але той бадзёра насвістваў вясёлую песеньку, і гэта Машынку супакойвала.




Раз-пораз насустрач траплялiся такія ж запозненыя машыны. Яны прыветна падміргвалі адна адной. І раптам Машынка заўважыла вельмі незвычайныя агеньчыкі фар — сінія-сінія.

«Ах, як прыгожа! Якія незвычайныя вочкі ў гэтай машыны. Вось бы і мне такія»,— падумала Машынка, але тут жа пачула, як Толік незадаволена разважае:

— Што за мода пайшла сінія фары ставіць машынам. Іх жа і ў яснае надвор'е не відаць, а калі ўжо туман на дарозе — зусім бяда. Правільна зрабілі, што забаранілі выкарыстоўваць такія.

З гэтым Машынцы прыйшлося пагадзіцца: святло жоўтых фар яна заўважала здалёк, а сінія вынырнулі нечакана зусім побач.

«Відаць, і сапраўды лепш мець ярка-жоўтыя вочкі»,— вырашыла Машынка.



4 Зак. 2544



## ПРОБКАФОБІЯ

Машынка ехала на папяровую фабрыку. Трэба было забраць паперу і адвезці яе ў друкарню. Там чыстыя лісты паперы ўмелыя рукі друкароў ператвораць у кніжкі, часопісы і газеты. Не цярпелася хутчэй убачыць неверагодныя машыны, якія працуюць на фабрыцы: у іх няма колаў, і працу сваю яны выконваюць, стоячы на адным месцы. А людзі, якія імі кіруюць, называюцца не вадзіцелямі, а аператарамі. «Вось бы пазнаёміцца з такімі машынамі»,— марыла малая.

Але рух на дарозе рабіўся ўсё больш павольным, а праз некалькі хвілін увогуле спыніўся. Машынка так і гэтак цягнулася, каб убачыць прычыну затрымкі, але з-за шырокага кузава пярэдняй машыны нічога не было відаць. Яна адчувала, як і ззаду, і з бакоў усё шчыльней ціснуцца машыны.

— Прабачце,— гукнула яна.— Што здарылася? Чаму стаім? Нам жа трэба спяшацца!



— Ты што, упершыню ў пробку трапіла? — спыталася машына, што стаяла побач.

— А што гэта — пробка, адкуль яна бярэцца?

— Ні ўзад ні ўперад — гэта і ёсць пробка. У прамысловых раёнах, дзе шмат фабрык і заводаў, такое здараецца часта. А яшчэ ў цэнтры горада. Справа ў тым, што дарогі не разлічаны на такую колькасць машын. Горад будаваўся даўно, тады транспарту было значна менш. Вось у новых мікрараёнах дарогі — любата. Шырокія-шырокія. І месцаў для парковак значна больш.

Тут субяседніца скарысталася магчымасцю праціснуцца хоць крышачку наперад. Машынцы таксама ўдалося прасунуцца колькі метраў. Яна адчувала, як псуецца настрой Толіка, як вадзіцелі іншых машын губляюць цярпенне.

— Ах, мне дрэнна! — пачула Машынка і, азірнуўшыся, убачыла немаладую ўжо грузавую машыну, якая напружана гудзела, нервова мігала фарамі і торгалася на адным месцы. Праз яе лабавое шкло было відаць, што і вадзіцель паводзіць сябе не лепш: ён то ўскокваў, то садзіўся, высоўваўся ў акно, нешта крычаў, хапаўся за мабільны тэлефон і зноў кідаў яго.

— Ды прапусціце ж! — заходзілася машына.— У мяне пробкафобія! Я не вытрываю больш!..— і яна сапраўды заглухла.





Вадзіцель выскачыў з кабіны, падняў капот і даліў у радыятар «Тасол» — ахалоджваючую вадкасць. Гэта дапамагло ёй апрытомнець і зноў завесціся. Машынка чакала, пакуль матор суседкі запрацаваў больш спакойна, і ціхенька спыталася:

— Скажыце, а што гэта — пробкафобія?

— Ох,— застагнала тая,— гэта жах. У пробцы я пачынаю нервавацца, мне робіцца страшна, я проста не магу сябе кантраляваць. Да таго ж мой вадзіцель заўсёды сварыцца, калі мы спазняемся, а гэта так непрыемна...

І тут яе вадзіцель заўважыў на суседнім паласе «акно» і так газануў, што ў паветры запахла паленай гумай.

Машынка са стрыманым асуджэннем падумала пра чужога вадзіцеля: «Як жа тут не будзе пробкафобіі, калі на цябе крычаць за спазненне».

Пробка раз'язджалася павольна-павольна. І, канечне ж, калі Машынка з Толікам урэшце дабраліся да папяровай фабрыкі, у іх не было ніводнай лішняй хвіліны на знаёмствы і роспыты. Ледзь паспелі пагрузіць паперу, адразу паехалі далей.



4а Зак. 2544



## НАВІНКІ «СВЕТУ МАШЫН»

У час абедзеннага перапынку Машынка стаяла каля скверыка і чакала Толіка. Каб не сумаваць, яна спадцішка назірала за двума хлопчыкамі, што гулялі непадалёк. Меншы знайшоў невялічкую лужынку і кідаў у яе каменьчыкі. «Блюп, блюп!» — весела ўсклікваў ён кожны раз, як каменьчык плюхаўся ў ваду. Старэйшы збіраў машыну з дэталей канструктара. А побач на лавачцы сядзела мама і чытала. Але праз некалькі хвілін яна ўзяла дзяцей за рукі, і яны накіраваліся да пешаходнага перахода.

Праходзячы паўз Машынкі, старэйшы хлопчык усклікнуў:

— Мама, глядзі, якая яна прыгожая! І такая маленькая, як цацачная! Мамачка, ну калі ты пойдзеш вучыцца ў аўташколу? Можа, тата купіў бы табе якраз такую машыну.



— О не, мой даражэнькі. Ты ж ведаеш, што я баюся садзіцца за руль. На дарогах гэтулькі машын. Там так небяспечна.

— Але ж вельмі многія жанчыны ездзяць і не баяцца.

— Ну, відаць, яны смялейшыя за мяне. Лепш ужо ты, як вырасцеш, сканструіруеш для мяне маленькую «лятучую талерку», я з задавальненнем буду катацца на ёй.

Відаць, такая прапанова хлопчыку спадабалася.

Падышоўшы да пешаходнага перахода, мама напомніла дзецям:

— Гляньце на святлафор! Бачыце — гарыць чырвонае святло. Нам трэба пачакаць...

— Зялёнага!— выгукнулі хлопчыкі.

Машынка прыслухоўвалася, як мама вучыць дзетак пераходзіць дарогу. Было прыемна, што на яе звярнулі ўвагу, і крышку шкада нясмелай мамы, што так баялася стаць вадзіцелем. Машынка цвёрда ведала: калі ўсе-ўсе правільна паводзяць сябе на дарозе, яна будзе бяспечнай.

Толік вярнуўся з абеду ўзрушаны. Сеўшы за руль, ён разгарнуў новенькі часопіс «Свет машын».

— Ты падумай, якіх толькі машын няма ў свеце! У мінулым нумары пісалі пра тыя, якія адным націскам кнопачкі ператвараюцца ў верталёт. Ёсць і такія, у каторых месца пасажыра знаходзіцца не побач з вадзіцельскім, а за ім — гэта сапраўдная знаходка для вялікіх




гарадоў. На такой вузенькай машыне лягчэй выбрацца з пробкі. А ў новым нумары фотаздымак машыны, на каторай не трэба разварочвацца, бо яе салон можа круціцца незалежна ад колаў.

«Гэта яшчэ што,— падумала Машынка.— Вось падрасце той хлопчык, і пабудуе для сваёй мамы “лятучую талерку”».

Але гэта былі яшчэ не ўсе навіны ў той дзень. Толік купіў аўтамагнітолу, і цяпер Машынка мела магчымасць заўсёды слухаць навіны і розную музыку. Ёй гэта вельмі спадабалася. Самыя прыгожыя песні яны з Толікам хутка вывучылі і разам напявалі-насвіствалі-гудзелі.






## МАШЫНЫ, ЯКІЯ РАТУЮЦЬ ЖЫЦЦЁ

Машынка вельмі спяшалася: яны везлі на пошту вялікую скрыню-пасылку. Раніцай на дарозе заўсёды ажыўлены рух. Таму прыходзілася выкарыстоўваць усё ўменне і вынаходлівасць, каб не спазніцца. Машынка стаяла на чарговым святлафоры і цярпліва чакала зялёнага святла. Раптам яна пачула рэзкія, пранізлівыя гукі сірэны. Міма прамчаліся пажарная, «хуткая дапамога» і міліцэйская машыны з мігалкамі. Яны несліся так хутка, што Машынцы аж дыханне перахапіла. Усе хуценька збочвалі, даючы ім дарогу. Машынка ўжо была знаёмая з гэтымі паважанымі ўсімі машынамі і ведала, што вадзіцель, як бы ні спяшаўся, абавязкова павінен ім саступіць. Ад таго, наколькі хутка прыедуць яны на месца, часта залежыць жыццё людзей.

Машынка з трывогай паглядзела ўслед і шчыра пажадала, каб людзі і машыны як мага лепш выканалі сваю працу — дапамаглі тым, хто трапіў у бяду.




Нарэшце загарэлася зялёнае святло і малая кранулася з месца. Машынка ехала па вуліцах горада і разважала аб тым, як гэта пачэсна і небяспечна — ратаваць каго-небудзь. Вечарам у гаражы яна падкаціла да Мамы і ціхенька расказала ёй, што таксама марыць здзяйсняць неверагодныя подзвігі. Мама выслухала Машынку вельмі ўважліва.

— Ведаеш, даражэнькая, у кожнай машыны свая праца. Але ў жыцці ўсяго бывае. Ты выконваеш важныя даручэнні і тым самым дапамагаеш вельмі многім. А калі ты на дарозе пільная і ўважлівая, то заўсёды ратуеш чыё-небудзь жыццё.

Машынцы такія словы вельмі спадабаліся.





## ПЕРШАЕ ПАРУШЭННЕ ПРАВІЛ

Дні ляцелі за днямі. Кожны быў напоўнены цікавымі здарэннямі і прыгодамі. Маленькая Машынка ўжо нават пачынала лічыць сябе бывалай і вопытнай, дарэчы, як і Толік. Але пакуль што нікому аб гэтым не гаварыла. І, як аказалася, нездарма.

Аднойчы, вяртаючыся з рэйса, Толік вырашыў забегчы ў гастраном за прадуктамі. Месца для паркоўкі паблізу не аказалася, і ён паставіў Машынку перад вітрынамі крамы.

— Нічога, я хуценька!— крыкнуў Толік.

Машынцы не заставалася нічога іншага, як чакаць. Яна крышку нервавалася. Толік упершыню парушаў правілы. Але зірнуўшы на вітрыну, перад якой яна апынулася, Машынка забыла пра ўсё на свеце. За шклом на палічцы стаялі цацачныя машынкі. Прыгожыя-прыгожыя. Адразу ўспомніўся той дзень, калі яна ўпершыню




ўбачыла цацкі, Ромка, які шчасліва прыціскаў да грудзей машынку, падараваную татам...

Але тут якраз побач пачулася незадаволенае бурчанне магутнага рухавіка. Машынка спалохана азірнулася. Да яе набліжаўся вялікі трактар. Але зусім не такі, які яна бачыла на палях і машынных дварах. Гэты быў пафарбаваны ў колер міліцэйскай формы і меў вельмі грозны выгляд.

— Добры дзень. Я — эвакуатар. Вы парушаеце правілы. Дзе ваш вадзіцель?— гаварыў трактар, падбіраючыся ўсё бліжэй і бліжэй да Машынкі.

А яна так спалохалася, што нават, каб дазволена было ездзіць без вадзіцеля, усё роўна не скранулася б з месца — колцы нібы прыраслі да асфальту.

— Ну што ж, грамадзяначка, вымушаны забраць вас на штрафстаянку.

— Ой, не трэба! — апамяталася Машынка.— Вадзіцель зараз прыйдзе. Ён у краму заскочыў. Мы ніколі-ніколі не парушаем правілы,— прасілася малая.

— Нічым не магу дапамагчы,— спакойна адказаў той і заняўся пагрузкай Машынкі на платформу.

Як жа было непрыемна і прыкра. Супраціўляцца яна не мела ніякага права. Але ўсё ж упіралася як магла. Нават міліцыянер-вадзіцель эвакуатара выглянуў у акно і здзіўлена прамовіў:

— Такая малая, а не паддаецца.




— Пачакайце, што вы робіце,— пачуўся разгублены голас Толіка.— Я ж на хвілінку адлучыўся. Проста ў магазіне была чарга...

— Малады чалавек, вы пакінулі машыну ў неўстаноўленым месцы,— афіцыйным голасам прамовіў міліцыянер.— Вось вам квіток, заплаціце ў банку штраф. Заўтра зможаце забраць сваю машыну са штрафстаянкі.

— Заўтра?! — ахнула Машынка.

А эвакуатар ужо пагрузіў яе на платформу і паехаў.



## НА ШТРАФСТАЯНЦЫ

Ах, як цяжка і самотна было на штрафстаянцы. І хоць машын тут было не менш, чым у гаражы, усе яны пачувалі сябе чужымі і адзінокімі. Некаторыя гучна даводзілі іншым, што іх забяруць, як толькі сонейка ўзыдзе, другія бурчалі на сваіх вадзіцеляў, трэція стаялі моўчкі. Але выгляд у іх быў пануры. Нават тыя, што напачатку дзёрлі нос, хутка замоўклі.

Машынка апынулася побач з вельмі старэнькім мікраатобусам. Абадраны, запылены, са спушчанымі коламі, праіржавелымі бакамі, пабітымі люстэркамі і фарамі, ён стаяў ціха-ціха і толькі раз-пораз цяжка ўздыхаў. Паглядзеўшы на яго, Машынка не стрымалася і заплакала. «А можа,— падумала яна, вадзіцель гэтага мікрааўтобуса не ведае, куды яго забралі. Ці штраф не заплаціў. А калі Толік мяне не знойдзе, дык і я тут загібею...»

Пачуўшы побач усхліпы, мікрааўтобус заклапочана спытаўся:





— Ну чаго ты, маленькая, румзаеш? Не плач, прыйдзе твой вадзіцель і забярэ цябе.

— Ага... Вас жа вось не забраў...

— Ну, я — другая справа. Пасля таго што мне давялося пеpажыць, я нават рады, што апынуўся тут.

Машынка перастала хліпаць.

— А што з вамі здарылася?

— Ну, пакуль быў малады і здаровы, працаваў на поўную сілу. Вадзіцель мяне любіў, даглядаў. Нават калі я пастарэў і пачаў псавацца, рамантаваў, клапаціўся. І вось аднойчы вечарам едзем мы на стаянку, а тут нечакана бабулька з кіёчкам праз вуліцу ідзе. Там ні святлафора, ні пешаходнага перахода. Я з усяго разгону ўбок крутануўся — урэзаўся ў дрэва. Бабульцы пашанцавала: яна абышлася лёгкім спалохам. Вадзіцель мой трапіў у бальніцу з пераломам рэбраў, але яго ўжо вылечылі. А мяне пасля гэтага здарэння нават аднавіць немагчыма. Стаяў, пакінуты, на нейкай чужой вуліцы. Вадзіцель спачатку адведваў, а пасля купіў сабе новую машыну, а пра мяне зусім забыўся. Вось і прастаяў я там некалькі месяцаў, нікому не патрэбны. Хлопчыкі шпурлялі мне ў фары камянямі, цэліліся ў люстэрка і шкло з рагатак, дзяўчаткі кідалі мне ў салон смецце. Пасля паабдзіралі з маіх бакоў усе значкі. І нават руль выламалі. Гэтулькі бед і знявагі нацярпеўся — жах. Людзі, якія праходзілі міма, злаваліся, што нейкая ламачына перашкаджае ім.



Нарэшце прыехаў эвакуатар і перавёз мяне сюды. Тут ціха, спакойна. Ніхто не чапае, не зневажае. А нядаўна зноў мой вадзіцель аб'явіўся. Вачам сваім не паверыў, калі мяне ўбачыў. Прабачэння прасіў. Нарэшце мой лёс вырашаны. Праз два дні мяне аддадуць у пераплаўку. Можа, зробяць што-небудзь вартае.

— Што?— жахнулася Машынка.— Але ж вас тады ўжо не будзе!

— Ну дык што ж. Для нас, механізмаў, гэта найлепшае выйсце. Павер мне, няма нічога страшнейшага, чым быць непатрэбным хламам, які з'ядае ржа.

Мікрааўтобус уздыхнуў і замоўк.

Ноч прайшла ў трывожных думках. Раненька-раненька за Машынкай прыйшоў Толік. Яна адчувала: ён таксама перажываў, што па яго віне Машынка вымушана была правесці ноч у такім сумным месцы. А калі ўбачыў побач разбіты мікрааўтобус, Толіка аж закалаціла. Некалькі дзён яны ездзілі пад уражаннем ад перажытага. Потым успамін трошкі прыглух, але Толік больш ніколі не пакідаў сваю Машынку абы-дзе.





## КЛОУН У ТРАЛЕЙБУСЕ

Аднойчы да Толіка прыехаў сябар. І прывёз яму ў падарунак фотаапарат. Яны ездзілі па самых прыгожых вуліцах горада, фатаграфаваліся, расказвалі адзін другому навіны. Машынцы было вельмі прыемна пачуць, як Толік сказаў свайму сябру пра яе:

— Ты ведаеш, мы з ёй сталі як родныя. Яна такая паслухмяная, такая надзейная. Я ведаю, што яна мяне ніколі не падвядзе.

— Але ж і ты з ёй нянчышся. Вунь якая дагледжаная,— заўважыў той.

— А як жа інакш,— коратка адказаў Толік.

Яны спыніліся непадалёк ад фантана.

Сябар Толіка прапанаваў:

— Станавіся, я здыму цябе побач з тваёй прыгажунькай.

Машынка зарадавалася. Яна бачыла на рэкламных шчытах і ў часопісах, якія купляў Толік, фотаздымкі



машын. І ёй было прыемна адчуць сябе на некалькі хвілін фотамадэллю. «А можа, і я траплю калі-небудзь на старонкі часопіса. Ці нават на рэкламны шчыт. Вунь колькі іх развесілі па горадзе».

Зрабіўшы колькі кадраў, яны ўжо хацелі садзіцца ў машыну. Але раптам іх увагу прыцягнуў тралейбус, што якраз пад'ехаў да прыпынку. З яго адчыненых акон чуўся гучны вясёлы голас: «Дарагія пасажыры! Я нагадаю вам правілы пераходу дарогі на святлафор і па пешаходным пераходзе». Хлопцы, прыгледзеўшыся, убачылі ў салоне тралейбуса клоуна. Сапраўднага клоуна — якраз як у цырку! Рудыя курчавыя валасы, чырвоны круглы нос, усмешка на ўвесь твар. Рознакаляровыя штаны на шлейцы з вялізным гузікам-флікерам. І што самае дзіўнае — гэта ён расказваў пасажырам правілы. «Як міргне зялёным вокам, дык ідзі спакойным крокам...» — данеслася з тралейбуса, які ўжо рушыў далей.

— Як чырвонае святло — стой, каб ліха не было! — разам закончылі хлопцы вядомую ўсім з дзяцінства загадку пра святлафор.

— Ух ты! — выгукнуў Толік.— Ты глянь, як цудоўна прыдумалі! Я ўпэўнены, што ніводзін пасажыр не прапусціць міма вушэй такі напамін. Тым больш што гэтыя правілы карысна паўтараць не толькі дзецям, але і дарослым.

«Так-так»,— падумала Машынка, прыгадаўшы сумны лёс мікрааўтобуса.





## ЧАМУ ПЕРААБУВАЮЦЦА МАШЫНЫ

Надышла восень. Машынка з цікавасцю назірала, як мяняецца ўсё навокал. Дажджы ішлі значна часцей. Лісце на дрэвах пажаўцела і апала. Дні сталі халаднейшымі, а вечары — цёмнымі і доўгімі.

Аднойчы раніцай Мама, выглянуўшы на двор, занепакоена сказала:

— Ноччу быў мароз. Дарога будзе слізкая. Трэба неадкладна пераабувацца. Напомні, калі ласка, свайму вадзіцелю.

Хаця ў Машынкі адразу ўзнікла шмат пытанняў, больш яна нічога не паспела патлумачыць. Малая ад нецярпення аж прытанцоўвала.

Калі яны з Толікам выехалі з гаража, Машынцы амаль адразу пад колцы трапілася гладзенькая-




гладзенькая лапінка. Якраз на тым месцы, дзе яшчэ ўчора была лужына.

«О-ёй! — спужалася Машынка, адчуўшы, як яе колы раз'язджаюцца і не слухаюцца руля.— Што са мною? Можа, я захварэла?» — мільганула думка.

А Толік таксама адчуў яе незвычайныя паводзіны і адразу зразумеў, у чым справа.

— Ну што ж, паедзем пераабувацца.

«Ага! — успомніла Машынка.— Мама таксама пра гэта гаварыла».

На шынамантажы ёй хуценька памянялі колы, паставіўшы зімовыя, шыпаваныя. Ехаць адразу стала значна зручней — не было так слізка. Колы ўжо не раз'язджаліся, а ўпэўнена кацілі па дарозе. Машынка са спачуваннем паглядала на маладых дзяўчат, што фарсілі ў прыгожых боціках на высокіх абцасах.

— Ім таксама пара пераабувацца,— вырашыла Машынка.

У той дзень яна нечакана спаткалася з аўтобусам, які неяк расказваў ёй гісторыю пра вераб'я. Той таксама пазнаў малую.

— Раскажыце пра зайцоў, якіх вы возіце. І хто іх ловіць? — папрасіла яна і пачула дзіўнае бульканне. Аўтобус смяяўся.

— Я пасажыраў важу. А «зайцамі» называюць тых, каторыя лянуюцца за праезд плаціць. Для іх выяўлення






існуюць кантралёры. Яны правяраюць у пасажыраў талоны. А «зайцоў» штрафуюць.

— А-а, зразумела. А я ўсё думала, чаму вы таго вераб'я «зайцам» назвалі.

Аўтобус развітаўся і, усміхаючыся, паехаў.





## НОВАЕ ЗНАЁМСТВА

Праз колькі дзён Машынка ехала ў суседні горад па новай трасе. Дарога была такая роўная, гладкая — адно задавальненне. Але і тут нельга было губляць пільнасці. Міма праносіліся вялізныя фуры. Машынка кожны раз аж прысядала ад страху, калі яны абганялі яе. А калі Толік сам вырашыў абмінуць адну, Машынка ледзь не заглухла. Яна так упарцілася, што Толік нават рассмяяўся:

— Баішся ты, ці што? Месца для абгону тут выдатнае, нам нічога не пагражае.

Што было рабіць? Прыйшлося падпарадкавацца. Затое пасля, апамятаўшыся, Машынка зарадавалася: «Я змагла! Я пераадолела сябе!»

Праехаўшы яшчэ колькі кіламетраў, яна заўважыла, што на абочыне стаіць прыгожая легкавушачка і трывожна мігае аварыйнымі сігналамі. Яны спыніліся.

Да Толіка падбег вадзіцель і папрасіў:



— Дапамажы, браток. Вазьмі на буксір. Тут недалёка, кіламетраў пяць, не больш.

Пакуль Толік даставаў трос і размаўляў з вадзіцелем легкавушкі, Машынка ціхенька спытала яе:

— Што з табою здарылася?

— Ох, не ведаю. Ужо некалькі дзён мой рухавік працуе з перабоямі, але мы былі так занятыя, што ўсё не выпадала звярнуцца на станцыю тэхнічнага абслугоўвання. А цяпер я ўвогуле не магу крануцца з месца.

— Пачакай крышку. Я табе дапамагу.

Вадзіцелі абедзвюх машын якраз прыладзілі трос да спецыяльных кручкоў і селі на свае месцы.

— Ну, даражэнькая, будзе цяжкавата, але ты зможаш,— ласкава звярнуўся Толік да Машынкі.

І праўда, справа аказалася не такой простай, як падалося спярша. Машынка старалася з усіх сіл, натужна гудзела, адчуваючы, як цяжка працуе яе рухавічок, але ўпарта цягнула за сабой легкавушку. Нарэшце дабраліся да яе дома. Насустрач ім выбеглі хлопчык з дзяўчынкай. Дзяўчынка была яшчэ маленькая. Яна глянула на незнаёмцаў і са здзіўленнем сказала:

— О! Тата сабе яшчэ адну машыну злавіў. Якраз як рыбу на вуду.

Усім стала смешна.

А хлопчык як старэйшы пачаў сур'ёзна тлумачыць сястрычцы:



— Не, маленькая. Гэта татаву машыну злавілі і прыцягнулі.

А вадзіцель легкавушкі, падхапіўшы дачушку на рукі, весела сказаў:

— І дзякуй вялікае за гэта. Самі мы дамоў нізавошта не даехалі б. Матор заглух.

Хлопчык уважліва выслухаў тату, падышоў да вялікай скрыні з цацкамі, што стаяла на двары. Пакорпаўшыся, ён выбраў самую прыгожую машыну. Пасля працягнуў яе Толіку і сказаў:

— Гэта вам. За тое, што вы ратавалі тату і нашу машыну.

Толік крышку разгубіўся.

— Дзякую, але ў мяне яшчэ няма дзетак. Некаму будзе гуляць з цацкай.

— А вы самі гуляйце,— упарта адказаў хлопчык.

Калі яны адвіталіся і паехалі далей, Толік вырашыў:

— Я пакіну гэту цацку ў машыне. Яна ж больш за ўсіх старалася.

Ах, як узрадавалася Машынка, як была ўдзячна Толіку. Яна ж так даўно марыла пра ўласную цацачную машынку. Вечарам у гаражы яна з захапленнем расказвала Маме і Тату пра перажытыя здарэнні.

— Ты малайчына: навучылася пераадольваць страх і не пакінула ў бядзе таварышку,— пахваліў яе Тата.



А Мама радасна сказала:

— Расце наша маленькая.

Машынка кінулася да бочкі — паглядзецца ці падрасла. Але нават скажонае адлюстраванне паказала, што яна ні на кропельку не стала большай.

— Машыны не растуць у памерах,— пачула яна голас Таты.— Але яны становяцца больш умелымі, упэўненымі, вопытнымі. А гэта важней, чым вялікі рост.



* * *

Ну вось, мае даражэнькія,
усё, што я хацела расказаць
пра маленькую Машынку.
У яе было яшчэ
шмат прыгод і сустрэч.
Яна сталела, разумнела, набіралася вопыту.
Кожны з вас таксама падрастае,
і кожнага чакаюць
свае цікавыя прыгоды.
І, магчыма, некаторыя з іх сустрэнуць вас
менавіта тады, калі вы самі будзеце
сядзець за рулём машыны.
Удачы вам!



# ЗМЕСТ


У гаражы 6
Знаёмства з вадзіцелем 9
Пра дзіўнага пасажыра 12
Цікавае даручэнне 15
Праколатая шына 18
Новыя адкрыцці 21
Небяспечныя лужыны 25
На аўтамыйцы 29
Чаму «кашляюць» машыны 33
Каровы на дарозе 37
На начной дарозе 40
Пробкафобія 42
Навінкі «Свету машын» 46
Машыны, якія ратуюць жыццё 50
Першае парушэнне правіл 52
На штрафстаянцы 55
Клоун у тралейбусе 59
Чаму пераабуваюцца машыны 62
Новае знаёмства 65


